Выдавец:
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс»,
пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by

Выдаецца са снежня 1994 года | 21 (529) 27 траўня 2010 года | Кошт свабодны



Фота Ул. Скрабатуна

Выпускнікі дзіцячага сада № 5.

Äîêøûöê³ ðà¸í

# Óïàäàáà¢ ïðýç³äýíò… êóìïÿ÷îê

■ Станіслаў Раманчук

**Апошнім часам шанцуе жыхарам Докшыцкага раёна на візіты высокапастаўленых гасцей.**

Адзін толькі цяперашні прэзідэнт Украіны Віктар Януковіч тут пабываў ужо двойчы, аднак сёлета часу на такую паездку з Мінска ў родныя мясціны продкаў у вёску Янукі не знайшоў. А вось для жыхароў гарпасёлка Бягомль самай распаўсюджанай тэмай размоў сталі цяпер уражанні ад прыезду сюды прэзідэнта В'етнама з жонкай. Напрыканцы свайго візіту ў Беларусь Нгуен Мінь Чыет пацікавіўся жыццём простай пасялковай сям'і Грышанавых. Марына з мужам Аляксандрам сардэчна сустрэлі сваіх ганаровых незвычайных гасцей. В'етнамскі лідэр нават зайшоў у хлеў, у якім гаспадары трымаюць карову і двух свіней, зацікавіўся лазняй на панадворку. Як спрактыкаваны палітык, шчыра пацікавіўся зарплатамі людзей, як яны апрацоўваюць зямельны ўчастак, і не адмовіўся ад пачастунку, хоць і абедаў у Бярэзінскім запаведніку. Прэзідэнту спадабаліся выстаўленыя на стол сала і, асабліва, самаробны кумпячок, які ён прапанаваў пасмакаваць і сваёй жонцы. Высокі госць адначыў невысокі ўзровень жыцця беларусаў, але быў па добраму ўражаны цяплом і адкрытасцю душы, шчырасцю і сардэчнасцю людзей, прымаўшых дзяржаўнага лідэра Сацыялістычнай Рэспублікі В'етнам.

Âåðõíÿäç³íñê³ ðà¸í

# ßø÷ý áîëüø àæûâå ÷ûãóíêà

■ Чэслаў Якубовіч

**Пакуль канчаткова невядома эфектыўнасць перапрацоўкі венесуэльскай нафты, але з Мазырскага НПЗ нафтапрадукты выраша на па чыгунцы перавозіць праз станцыю Бігосава, што ў Верхнядзвінскім раёне, у латвійскі порт Вентспілс.**

На гэтым пагранпераходзе пасля адкрыцця нядаўна руху саставаў па другому пуці цяпер у суткі сталі прапускаць ужо 32 пары вялікіх чыгуначных саставаў. І для латвійскай чыгункі, як заявіў тут старшыня яе праўлення Угіс Магоніс, гэта стратэгічная магістраль. Па дамоўленасці абодвух бакоў прадоўжыцца развіццё колеявай дарогі з двухпутным рухам. На ўчастку ад Бігосава да Полацка беларусы пачынаюць узводзіць другую па ліку каляю з сучаснымі сродкамі кіравання і сістэмай бяспекі руху. Агульны кошт праекта толькі з беларускага боку каля 200 млн. долараў, а заканчэнне работ намечана да 2016 года. Сумеснае будаўніцтва чыгункі дазволіць як Латвіі, так і Беларусі павялічыць прапускную здольнасць стальных магістраляў болей чым у 1,5 разы. Спецыялісты ўжо падлічылі, што эканамічна гэта ўзаемавыгадна і дазваляе штогод дадаткова перавозіць больш 13 млн. тон беларускіх грузаў – акрамя нафты і паліва яшчэ таксама айчынныя ўгнаенні, лес і вугаль.

# Ó Â³öåáñêó ç'ÿâ³ööà áóö³ê-ãàòýëü

■Яна Ільіна

**Гутаркі мясцовых улад пра тое, што Віцебск павінен стаць не толькі паўночнай сталіцай Беларусі, але і горадам з еўрапейскім глянцам, усё больш увасабляюцца ў рэальнасць.**

Да фэсту "Славянскі кірмаш" у нас павінен з'явіцца буцік-гатэль. На яго званне прэтэндуе гасцініца "Ветразь".

Буцік-гатэль - тып невялікай гасцініцы, які прадугледжвае адмысловы стыль, дызайн, індывідуальнасць і высокі ўзровень камфорту. Часта афармляецца ў адмысловым тэматычным стылі. Звычайна не прыналежыць да вядомых гасцінічных ланцужкоў.

Як паведамляе БЕЛТА, віцебскі "Ветразь" мае больш двух дзесяткаў нумароў з эксклюзіўным дызайнерскім афармленнем - "Усходняя казка", "Егіпецкая ноч", "Персікавы рай", "Бульбаш", "Славянскі", "Дзвінскі бровар"... Пры гэтым кошт нумара ў незвычайным стылі складае 110 тысяч рублёў. Гэта трохі даражэй, чым звычайны нумар у гатэлі(92 тысячы рублёў).

Ïàñòà¢ñê³ ðà¸í

# Äà¢ã³, áû ööàì ïóòû

■Кастусь Александровіч

**Хоць і шмат гаворыцца аб эфектыўнасці беларускай мадэлі развіцця, але ў глыбінцы ўзровень жыцця і даходаў многіх сем'яў не дазваляе ім нават зводзіць канцы з канцамі.**

Не стаў выключэннем і Пастаўскі раён, дзе апошнім часам спынілі сваё існаванне ў райцэнтры мясакамбінат і кансервавы завод. Сёлета перад пасяўной перастаў дзейнічаць сельгаскааператыў "Свіранскі", які аб'ядналі з суседняй гаспадаркай. Гэтым летам будзе закрыта і Варапаеўская дапаможная спецшкола-інтэрнат і каля 80 яе работнікаў страцяць працу. Лынтупскі спіртзавод вясной страціў сваю самастойнасць і стаў адным з філіялаў Віцебскага лікёра-гарэлачнага завода. У выніку сёлета па раёну назіраецца рост запазычанасці насельніцтва па аплаце камунальных паслуг. У пачатку мая такіх даўжнікоў на Пастаўшчыне набралася аж 539 сем'яў. Самае страшнае, што з іх 433 не аплочваюць за пражыванне ў кватэрах жылфонда па два і болей месяцаў, нягледзячы на неаднаразовыя папярэджанні, адключэнні вады і газу і публікацыі спісаў злосных даўжнікоў у райгазеце "Пастаўскі край". Праўда, калі на людзей яшчэ можна знайсці ўправу, то з юрыдычнымі асобамі яшчэ цяжэй. Ужо болей 1,5 млрд. рублёў запазычылі Пастаўскаму райкамунгасу спажыўцы яго ных паслуг, і нармальнае развіццё гэтай арганізацыі пад пагрозай.

Íàäâîð'å ¢ Ãëûáîê³ì — www.rp5.ru

| Мясцовы час | чацвер 27.05.10 | | | | пятн.28.05.10 | | | сб. 29.05.10 | | нядз.30.05.10 | | 31.05.10 | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 03:00 | 15:00 | 03:00 | 15:00 | 03:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература, °С | +5 | +11 | +16 | +14 | +7 | +13 | +18 | +9 | +17 | +8 | +18 | +5 | +19 |
| Ціск, мм | 739 | 741 | 741 | 742 | 742 | 743 | 744 | 745 | 749 | 749 | 749 | 748 | 744 |
| Вільготнасць, % | 90 | 63 | 48 | 52 | 88 | 72 | 50 | 99 | 42 | 87 | 36 | - | - |
| Вецер м/сек | З 7 | З 7 | З 6 | З 3 | З 3 | З 2 | Ю-З 3 | С-З 7 | З 4 | З 4 | З 5 | Ю-З 2 | Ю-В 4 |



## Äçåíü çà äíåì

**Яшчэ на тры гады, да 30 чэрвеня 2013 года пастановай урада прадоўжылі ў Беларусі тэрміны чэкавай прыватызацыі. Пакуль толькі 46 працэнтаў беларускіх грамадзян атрымалі на прыватызацыйныя чэкі "Маёмасць" нейкія каштоўныя паперы, а каля 200 мільёнаў гэтых чэкаў так і не выкарыстаны пакуль. Працэс прыватызацыі і рынкавыя рэформы ў нас прасоўваюцца марудна, а цяпер у перыяд сусветнага фінансавага крызісу атрымаць добрыя дывідэнты і грошы за іх будзе праблематычна, бо сітуацыя ў айчыннай эканоміцы працягвае пагаршацца.**

## Âàæíåéøûÿ íàâ³íû ñâåòó

**Расія.** Пасля жудаснай аварыі на самай сучаснай шахце "Распадская" у Кузбасе і гібелі амаль 90 чалавек, па ўсёй Расіі пачаліся маштабныя праверкі стану ўсіх аб'ектаў галіны.

**Эстонія.** Кіраўніцтва ЕС пацвердзіла эстонцам, што іх краіна ў 2011 годзе стане паўнапраўным удзельнікам зоны еўра, абмен валют будзе па курсу 15,64 кроны за 1 EUR.

**Таджыкістан.** У краіне ўспыхнула эпідэмія поліяміеліту, пацвердзілі каля 300 выпадкаў захворвання, памерлі першыя 13 чалавек, небяспечны вірус перакінуўся і ў Расію.

**Таіланд.** Адразу ў 16 правінцыях краіны і ў сталіцы Бангкоку прыйшлося ўладам увесці рэжым надзвычайнага становішча з-за працяглых хваляванняў і вулічных акцый апазіцыі.

**Кіргызстан.** Па меркаваннях бяспекі ўсе беларускія дыпламаты на чале з паслом Беларусі В. Дзенісенка пакінулі Бішкек, ля пасольства РБ прайшло шэраг розных акцый пратэсту.

**ЗША.** Аэракасмічны гігант, карпарацыя "Боінг" прадставіла навінку – новы беспілотны самалёт-разведчык масай 16,5 тон і максімальнай вышынёй палёта 12 тысяч метраў.

**Польшча.** Польскі ўрадавы авіяатрад будзе цяпер перавозіць першых асоб краіны не на расійскіх "Ту", а на ўзятых у лізінг у авіякампаніі LOT бразільскіх самалётах "Embraer".

**Украіна.** Каля 10 розных дагавораў аб супрацоўніцтве з Расіяй было падпісана падчас візіта сюды прэзідэнта РФ Д. Мядзведзева, Кіеў не згадзіўся на паглынанне "Нафтагаза".

**Куба.** З пасады знялі міністра цукровай прамысловасці Луіса Авілу за самы горшы за апошніе стагоддзе ўраджай цукровага трыснікa.

**Самалі.** Жыхары краіны абураны дзеяннямі расійскіх ваенных, якія не сталі арыштоўваць затрыманых імі піратаў, а пакінулі іх у моры на надуўной лодцы без сродкаў навігацыі.

**ЗША.** Упершыню ў свеце чэрвеньскі нумар эратычнага часопіса Playboy выпусцілі ў 3D-фармаце са стэрэаакулярамі для прагляду агаленых "аб'ёмных" прыгажунь мадэлей.

**Казахстан.** Як і чакалася, абедзьве палаты парламента краіны аб'явілі прэзідэнта Н. Назарбаева пажыццёвым лідэрам нацыі з асаблівымі паўнамоцтвамі і гарантыямі.

**Лівія.** На борце рухнуўшага новенькага аэробуса ў аэрапорце Трыпалі загінулі 103 пасажыры з 9 краін свету, з іх 62 – грамадзяне Галандыі, цудам выжыла толькі адно дзіця.

**Бразілія.** Моцны пажар у даследчым цэнтры інстытута Butantan знішчыў буйнейшую ў свеце калекцыю змей, павукоў і скарпіёнаў, загінула каля 80 тысяч насякомых і рэптылій.

**Карэя.** Краіна адмовілася бясплатна трансліраваць у суседнюю камуністычную КНДР матчы чэмпіяната свету па футболе, бо нават яны там падвяргаюцца пільнай цэнзуры.

## Ïàäçå³, ïðà ÿê³ÿ ãàâîðûöü Áåëàðóñü

**Мінск.** Услед за чарговым павышэннем у Беларусі цэн на нафтапрадукты пададражэлі на 2-3 % для беларусаў адпускныя цэны на малако, мясапрадукты па просьбе Мінсельгасхарча.

**Абчак.** На стварэнне ў 2011 годзе другой лініі па вытворчасці легкавых аўтамабіляў Samand на базе СП "Юнісон" іранскі партнёр выдзяляе 55 млн. USD інвестыцый.

**Мінск.** План вываду з крызісу сталічнага падшыпнікавага завода не выконваецца, у 2 разы ўпалі тут аб'ёмы вытворчасці, колькасць працуючых скарацілася болей чым на 15 %.

**Смалявічы.** Уся прадукцыя мясцовай буйной птушкафабрыкі маркі "Браты Грылль" і яе курыбройлеры забаронены для адгрузкі ў Расію па рашэнню яе адыёзных ветслужб.

**Гродна.** Абласны суд прыгаварыў да выключнай меры – растрэлу з канфіскацыяй маёмасці двух гараджан, якія летась восенню забілі ў Гродне 2 жанчын і мужчыну.

**Магілёў.** Міліцыя актыўна шукае 37-гадовага загадчыка сектара мясцовага філіяла "Белзнешэканомбанка", які выкраў 990 млн. рублёў і знік у невядомым накірунку.

**Мазыр.** Па рацэ Прыпяці праз 20 гадоў аднавіліся рэгулярныя рэйсы для пасажыраў цеплахода ад Мазыра да Турава па абноўленай схеме руху па вадзе і з прыпынкамі.

**Мінск.** Каля 10 тысяч каманд прынялі ўдзел у краіне ў чарговай маштабнай акцыі – Адзінага тыдня футбола, які завяршыўся фінальным матчам Кубка Беларусі ў сталіцы.

**Ліда.** На 5 гадоў асудзілі экс-дырэктара доследнага завода "Нёман" за бясплатнае прадастаўленне вытворчых плошчаў фірме сына па рамонту і тэхаблугоўванню аўто.

**Салігорск.** Падаў у адстаўку з пасады галоўнага трэнера ФК "Шахцёр" знакаміты спецыяліст Э. Малафееў, пасля няўдач паміж ім і кіраўніцтвам і ФК "Дынама" (Мінск).

**Мінск.** Цэлы месяц ва ўнутраных войсках МУС Беларусі працягваўся вучэбны збор па падрыхтоўцы да конкурса за права нашэння крапавых берэтаў сярод 101 вайскоўца.

**Гродна.** Англійская кампанія "Tobacco I. E." выдзеліла тытунёвай фабрыцы бязвыплатны грант у суме 4,5 млн. EUR на закуп новай лініі па выпуску цыгарэт класу суперслім.

**Мінск.** Ужо 70 % жыхароў Беларусі, як заявіў лідэр руху "За свабоду" А. Мілінкевіч, па дадзеных сацыёлагаў, хочуць перамен, чэсных выбараў і жыць інакш, чым цяпер.

**Чавусы.** Пасля капітальнага рамонту зноў адкрыўся закрыты летась дзіцячы аздараўленчы лагер "Зара", у вобласці такіх баз адпачынку засталося 23, з іх 10 патрабуюць рамонту.

**Мінск.** У яшчэ адну новую ВНУ, адкрытую ў Беларусі, Інстытут пагранічнай службы, плануюць прыняць на вучобу першых 100 курсантаў дзённай формы навучання.

**Нясвіж.** Рэстаўратары завяршаюць абноўку дэкора, каменя і ляпніны мясцовага замка, поўнасцю рэканструкцыя знакамітага палацавага ансамбля завяршыцца 9 мая 2011 года.

## Ïàíàðàìà ¢íóòðûõ ïàäçåé

**Наваполацк.** Эканамісты "Нафтана" пачалі дэталёва аблічваць рэнтабельнасць транспарціроўкі на завод для перапрацоўкі нафты з Венесуэлы, зараз загрузка меней 60 %.

**Віцебск.** Кіраўнік вобласці А. Косінец упершыню прызнаў, што рэгіён не дасягне сёлета заробкаў 500 USD, але даў заданне раёнам і гарадам максімальна наблізіцца да іх.

**Лепель.** Краявіды Бярэзінскага запаведніка і атакі камароў уразілі высокага госця – прэзідэнта В'етнама Нгуена Мінь Чыета, тут быў і знакаміты эколаг з Англіі Бары Купер.

**Віцебск.** Па выніках працы за 4 месяцы года на складах прадпрыемстваў горада набралася нерэалізаванай прадукцыі на 190 млрд. рублёў, правалены асноўныя параметры развіцця.

**Паставы.** Мясцовы завод радыёкампанентаў "Беліт" у ліку яшчэ 11 прадпрыемстваў галіны ўвайшоў у склад айчыннага холдынга электронікі на базе ААТ "Гарызонт".

**Віцебск.** РУП "Віцебскаўтадор" заказаў праект Паўночна-заходняга абходу горада, які ў перспектыве стане паўнацэннай кальцавой дарогай вакол абласнога цэнтра.

**Полацк.** Вечарам на чыгуначнай станцыі пад дрэвам два 53-гадовых палачане сталі ахвярамі ўдару маланкі, калі тут хаваліся ад дажджу, адзін з іх загінуў на месцы здарэння.

**Віцебск.** На чарговую "прамую лінію" старшыні аблвыканкама ад жыхароў вобласці паступіла 46 скарг на якасць узводзімага жылля і просьб аб рамонце старых будынкаў.

**Руба.** На 20 % меней, чым летась, зменшылася дзяржфінансаванне стратнага ААТ "Даламіт", яно балансуе на грані спынення, рэнтабельнасць вытворчасці мінус 24 %.

**Віцебск.** У першай дэкадзе мая ў вобласці выпала больш месячнай нормы дажджу, што прыкметна знізіла тэмпы веснавой сяўбы, не былі пасеяны трэць неабходных плошчаў.

**Сянно.** На тэрыторыі дзіцячага лагера "Віцязь" падчас ачысткі калектара каналізацыі атруціліся газам і загінулі 2 чалавекі, яшчэ двое – інжынер і рабочы атруціліся парамі.

**Віцебск.** Упершыню тэхнікі Віцебскага аэрапорта паспяхова прынялі і абслужылі пад дажджом бразільскі самалёт "Embraer" з бортам № 1 афіцыйнай дэлегацыі з Польшчы.

**Дубровна.** У райцэнтры прайшло першае абласное свята тэатраў лялек "Запрашаем у казку" з удзелам 10 лепшых самадзейных калектываў, 4 з іх "народныя" і "узорныя".

**Сянно.** Па гарачых слядах супрацоўнікі ДАІ знайшлі і затрымалі 39-гадовага кіроўцу, які п'яны на іншамарцы ў гарпасёлку Багушэўск збіў на смерць на дарозе маладога рабочага.

**Віцебск.** Артысты драмтэатра імя Я. Коласа цёпла павіншавалі калегу, вядучага майстра сцэны Віктара Дашкевіча з узнагароджаннем медалём Ф. Скарыны, у тэатры ён 36 гадоў.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

## Лічба нумара

**100** ужо столькі крымінальных спраў, па дадзеных часовага ўрада Кыргістана, узбуджана супраць прыбліжаных экс-прэзідэнта гэтай азіяцкай краіны К. Бакіева і супраць яго самога. Пакуль адхілены сілай ад улады былы лідэр неспакойнай рэспублікі СНД знаходзіцца з 19 красавіка ў нас у Беларусі пад абаронай А. Лукашэнкі. Для беларускага кіраўніцтва гэты госць адзіны легітымны чалавек, аднак развіццё далейшых падзей праходзіць па непажаданаму сцэнарыю для нядаўняй кіргізскай эліты.

На працягу некалькіх тыдняў пасольства Беларусі ў Бішкеку пікетавалі родныя і сябры загінуўшых у сталіцы маладых людзей. Нагадаем, што тады там былі забіты 85 і атрымалі раненні сотні кіргізаў. Іх блізкія абвінавачваюць у гібелі дарагіх людзей былога прэзідэнта Курманбека Бакіева і патрабуюць у Беларусі яго выдаць. У выніку развіцця падзей узнікла пагроза жыццю беларускім дыпламатам, і ўсе работнікі дыпмісіі і члены іх сем'яў былі эвакуіраваны адтуль па меркаваннях бяспекі. Для кансультацый з Мінска ў Бішкек была адклікана таксама пасол Кыргыстана ў Беларусі Ішэнкуль Болджурава.

Пакуль размоў аб адкліканні поўнасцю пасла з беларускай сталіцы не ідзе, бо гэта б адзначала значнае пагаршэнне ўзаемных адносін. Але цяперашняя сітуацыя будзе мець працяг і тым, хто яе заварыў, спакою і нейкіх палітычных дывідэнтаў, мяркуючы па ўсім, не прынясе. Малочы вялікі ўплыў у рэгіёне, Расія адназначна падтрымала ў гэтым кіргізскім вострым канфлікце не прыхільнікаў клана Бакіевых. Генеральная пракуратура Кыргістана направіла сваім беларускім калегам афіцыйны запыт на экстрадыцыю экс-прэзідэнта.

Супраць К. Бакіева вылучаны сур'ёзныя абвінавачванні, і яму пагражае да 20 гадоў турэмнага зняволення. Караць смерцю там нікога не будуць, паколькі кіргізы адмовіліся ад такой вышэйшай ступені пакарання. Пакуль жа беларускім праваахоўным органам быў накіраваны па ўсёй форме з пячаткамі пакет дакументаў: копіі вылучаных абвінавачванняў па 2-х артыкулах "перавышэнне службовых паўнамоцтваў" і "забойства грамадзян", копія рашэння аб узяцці пад варту і іншыя ў адпаведнасці з міжнароднай канвенцыяй. Яго прыбліжаных абвінавачваюць таксама і ў маёмасных злачынствах, з сумай урону больш 5 млрд. сомаў.

Кіргізскія аператыўнікі выявілі незаконныя дзеянні такіх структур, як Фонд развіцця КР, аэрапорт "Манас", прыватызацыю з парушэннямі закона стратэгічных аб'ектаў "Кыргыстэлеком", "ЧаканГЭС" і іншых. Асабліва актыўна мясцовая пракуратура і Інтэрпол адшукваюць сына К. Бакіева Максіма. У выніку, на поўдні краіны, дзе ў асноўным жывуць іх прыхільнікі, успыхнулі, але былі хутка падаўлены хваляванні з захопам будынкаў трох абладміністрацый. Адбылася новая хваля затрыманняў, сярод якіх і спікера парламента і лідэра кампартыі.

На гэтым фоне кіргізы рыхтуюцца да парламенцкіх выбараў, а новая ўлада пакрыху ўмацоўвае свае пазіцыі. У грамадстве спадзяюцца, што Роза Атунбаева і яе часовы ўрад акажацца больш мудрэйшай, зможа парваць з кланавасцю, родаплемяннай розніцай, пачне ствараць сапраўднае грамадзянскае грамадства.. Пачаў распрацоўвацца закон аб парламенцкай рэспубліцы, да народа паступова прыходзіць упэўненасць, што можна агульнымі намаганнямі супрацьстаяць узурпацыі ўлады ў адных руках, што ў суседзяў у суседняй Азіі стала нормай жыцця.

Тым часам, кіраўнік часовага ўрада Кыргыстана Роза Атунбаева спачатку ў маі падпісала дэкрэт аб пазбаўленні прэзідэнцкай недатыкальнасці К. Бакіева за растрэл мірных грамадзян і папярэдзіла А. Лукашэнку, што краіна будзе дабівацца выдачы экс-лідэра. Беларускі лідэр лічыць і не раз публічна заяўляў, што паступіў правільна. Як заўсёды, у бліжэйшы час гісторыя раставіць усіх па сваіх месцах.

Далейшы лёс гэтай краіны – пытанне вялікай геапалітыкі ў Цэнтральнай Азіі. Тут ёсць шэраг моцных ігракоў – Расія, ЗША і Кітай, у кожнай з гэтых краін прысутнічаюць свае інтарэсы. Патрэбна ў гэтай краіне праводзіць эканамічныя рэформы, каб падняць эканоміку і павысіць пакуль невысокі ўзровень жыцця кіргізаў з цяперашніх 800 USD ВУП у год на чалавека.

# Мастакі аднавілі Грунвальдскую харугву

**Рэканструкцыю Грунвальдскай харугвы ажыццявілі мастак Мікола Купава і навуковец, геральдыст Анатоль Цітоў.**

**Пад гэткімі харугвамі беларускія войскі ваявалі пад Грунвальдам і дасягнулі Вялікай перамогі, якая ахінула нашу краіну і яе старажытныя сімвалы славай і гонарам.**

Цэнтрам кампазіцыі вайсковых беларускіх харугваў заўсёды была “Пагоня”. Харугвы мелі нязначныя адрозненні ў дэталях альбо афарбоўцы.

Тканіна харугвы колеру кармін (шоўк). У цэнтры харугвы выява герба “Пагоня”. Конь і вершнік белага колеру (срэбнага). Крыж на шчыце конніка – залаты. Збруя і шчыт рыцара светла-блакітнага колеру з цёплым адценнем. Памер харугвы 110х160 сантыметраў. Астатнія дэталі – прапарцыйна і адпаведна з узорам. Гэта класічная вайсковая харугва з 1410 года і выкарыстоўвалася палкамі ВКЛ. Да іх адносяцца харугвы: Ашмянская, Віленская, Лідская (Віленская зямля). У астатніх харугвах маюцца адмысловыя адрозненні: Амсціслаўская (з Магілёўскай зямлёй і Старадубам) – гунька на кані памаранчавая; Аршанская, Віцебская – гунька зялёная; Берасцейская, Ваўкавыская, Слонімская, Дарагічынская (Берасцейская зямля) – вершнікі ў чорных даспехах; Гарадзенская – чорны конь і чорны вершнік; Мазырская – харугва зялёная; Менская – конь цялеснага колеру; Навагардская – чорны вершнік, залатая збруя; Полацкая – вершнік сталёвага колеру; Пінская – вершнік блакітны, залатая збруя; Смаленская – гунька памаранчавая.

На адваротным баку Берасцейскай і Віленскай харугваў – гарадскія гербы. Гэтыя гарады напрыканцы 14 стагоддзя атрымалі Магдэбургскае права. Усе астатнія харугвы маюць з двух бакоў “Пагоню”, якая робіцца метадам аплікацыі: у чырвоным полі выразаецца абрыс “Пагоні”, у праём ушываецца выява каня з вершнікам.

– Пад гэтымі, рэканструяванымі харугвамі дэлегацыі з Беларусі будуць прымаць удзел у паездцы на Грунвальдскае поле 15-18 ліпеня 2010 года, – паведаміў намеснік старшыні аргкамітэта па святкаванню 600-годдзя Грунвальдскай перамогі Мікола Купава.

Арганізатары святочных мерапрыемстваў з удзячнасцю прымуць любую фундатарскую дапамогу ад арганізацый і прыватных асобаў. Па пытаннях удзелу ў падрыхтоўцы і адзначэнні 600-годдзя Грунвальдскай перамогі можна звяртацца па тэлефонах(8-029)5513236, (8-029)3352494, альбо пісаць на dubrouna@gmail.com.

*Рэспубліканскі грамадскі арганізацыйны камітэт па святкаванню 660-годдзя Вітаўта Вялікага і 600-годдзя Грунвальдскай (Дубровенскай) Перамогі.*



**Узор харугваў вайсковых фармаванняў земляў ВКЛ 1410 года**

■ **Вячаслаў Бука**

# Рамантык з Радзюкоў

Пра тое, што прафесар біяхіміі Эдвард Бароўскі паходзіць з-пад Шаркоўшчыны, я даведаўся з нарыса Л. Ардынскай «Радзюкі. Вяртанне да вытокаў», што быў у гэтым годзе надрукаваны у «Вольным Глыбокім». Не скажу, каб я, як біяхімік, да таго ведаў працы прафесара Бароўскага – нашы навуковыя інтарэсы былі вельмі далёкія. Але часта бываючы ў Польшчы і супрацоўнічаючы з польскімі калегамі, мне час ад часу гэта імя сустракалася: то ў праграме біяхімічнай канферэнцыі, то ў размове з калегамі-навукоўцамі. І вялікай нечаканасцю для мяне было даведацца, што прафесар Эдвард Бароўскі паходзіць з Радзюкоў, якія ўсяго ў 4 км ад маіх родных Марак.

Прафесар Эдвард Бароўскі - нашчадак шляхетнага роду гербу «Ястрабец», да якога належылі 750 вядомых родаў Беларусі, Украіны, Літвы і Польшчы, у тым ліку Неміровічы, Завістоўскія, Протасавічы, Шчыты. Роды гербу «Ястрабец» далі Вялікаму Княству Літоўскаму, Рэчы Паспалітай і Расійскай імперыі цэлы шэраг выдатных дзеячоў палітыкі, навукі, мастацтва, каталіцкіх біскупаў, а некаторыя нават былі ўганараваны тытулам барона. Ці не адтуль пайшлі польскі літаратуразнаўца Леон Бароўскі, які аказаў значны ўплыў на творчасць Адама Міцкевіча ды Яна Чачота і расійскі тэатральны дзеяч В. Неміровіч-Данчанка? Шэраг дзесяцігоддзяў, калі не стагоддзяў, аддзяляе нас ад гэтых людзей і падзей з імі звязаных: ведама-ж – гісторыя, далёкія ад нас часы. А тут наш час, ды яшчэ і Радзюкі, у якіх колькі гадоў працаваў у саўгасе бухгалтарам мой бацька, куды мы ездзілі з дзедам на млын, дзе я вудзіў плотак ды акунёў у Бярозаўцы.

З вялікай цікавасцю зайшоў я ў Інтэрнэт і на сайце Гданьскай палітэхнікі знайшоў кафедру фармацэўтычнай тэхналогіі і біяхіміі. Нечаканасцю стала для мяне тое, што прафесар Эдвард Бароўскі да цяперашняга часу знаходзіцца ў штаце кафедры, мае ўласную навуковую лабараторыю і плённа займаецца навуковымі распрацоўкамі, аб чым сведчыў і шэраг свежых артыкулаў у прэстыжных навуковых часопісах. На той жа старонцы я знайшоў адрас электроннай пошты прафесара і адправіў яму свой першы ліст. З гэтага пачалося наша ліставанне.

Чым жа славуты прафесар Эдвард Бароўскі і чаго яго гэтак шануюць у Польшы? Пра гэта я даведаўся з артыкула яго вучня, прафесара С. Мілеўскага, надрукаванага ў 2004 г. у польскім навуковым часопісе Polish Journal of Chemistry. Эдвард Бароўскі прыехаў у Гданьск у 1945 годзе, дзе пачаў вучыцца на хімічным факультэце Гданьскай палітэхнікі. Сваю навуковую кар'еру ён пачаў студэнтам 3-га курса, калі быў залічаны асістэнтам на кафедру арганічнай хіміі, дзе навучаў малодшых студэнтаў, адначасова працягваючы і ўласнае навучанне. Тады ж ён пачаў праводзіць і навуковыя даследаванні, якія былі звязаны з распрацоўкай новых антыбіётыкаў. Гэта навуковая праца завяршылася адкрыццём першага польскага антыбіётыка, тэтаіна, і лягла ў аснову яго дысертацыі, абароненай у 1954 годзе. А ў 1957 годзе паспяховага маладога вучонага напраўляюць на трохгадовую стажыроўку ў ЗША, і не куды-нібудзь, а Нью-Брансвік, сталіцу амерыканскай фармакалогіі, у лабараторыю самога прафесара Зэльмана А. Ваксмана, лаўрэата Нобелеўскай прэміі, якую слынны вучоны, які, дарэчы, нарадзіўся на Украіне, атрымаў за адкрыццё стрэптаміцыну. (Дарэчы, стрэптаміцын уратаваў і мне жыццё, калі я падлеткам ляжаў у непрытомнасці з высокай тэмпературай у Шаркоўшчынскай бальніцы, пакутуючы ад няведама адкуль зваліўшагася на мяне пляўрыту. Бацькі мае “даставалі” за вялікія грошы гэты экзатычны тады лек аж у Дзвінску, і толькі ён ратаваў мне ледзь ліпеўшае жыццё). Навуковы досвед, атрыманы ў лабараторыі Ваксмана, паўплываў і на далейшы навуковы лёс Эдварда Бароўскага. Вярнуўшыся ў Гданьск, ён атрымаў пасаду кіраўніка кафедры біяхіміі, якая пазней была ператворана ў кафедру фармацэўтычнай тэхналогіі і біяхіміі, і з якой да сённяшняга дня звязаны навуковы лёс прафесара. Пры кафедры арганізуецца калектыў навукоўцаў: фармаколагаў, хімікаў, біяхімікаў, мікрабіёлагаў, якія паспяхова займаюцца распрацоўкай новых лекаў: антыбіётыкаў, супрацьгрыбковых і супрацьракавых сродкаў. Прафесар Бароўскі і яго навуковая група, стаўшая вядучым цэнтрам даследаванняў лекаў у Польшы, атрымалі шырокае навуковае прызнанне ў цэлым свеце.



**Прафесар Эдвард Бароўскі (справа) і дактарант Роберт Ендрэйчак.**

Навуковыя дасягненні прафесара Бароўскага вельмі ўражлівыя. На яго ліку больш за 800 навуковых публікацый, у тым ліку артыкулы ў вядучых навуковых часопісах свету. Ён з`яўляцца аўтарам 70 патэнтаў, а пад яго кіраўніцтвам абаронена 42 дысертацыі на ступень доктара філасофіі (адпавядае нашаму кадыдату навук) і 7 – на ступень доктара навук. Вынікам плённай дзейнасці прафесара Бароўскага стала адкрыццё і распрацоўка тэхналогій шэрагу новых антыбіётыкаў, розных антыбактэрыяльных, супрацьгрыбковых і супрацьракавых сродкаў, вывучэнне малекулярных механізмаў іх дзеяння, стварэнне новых навуковых гіпотэз і канцэпцый.

У 1998 годзе прафесар Бароўскі, адзначыўшы 50-годдзе свёй навуковай дзейнасці, сышоў з пасады кіраўніка кафедры, перадаўшы яе свайму вучню. Але гэта не быў адыход ад навуковай дзейнасці, якую прафесар Эдвард Бароўскі, гэты рамантык ад навукі, як характарызуюць яго вучні, паспяхова працягвае і па сённяшні дзень.

У сваім апошнім лісце да мяне прафесар Бароўскі піша: “Гэтая вясна прынесла мне вялікае неспадзяванне. Калі я ў мінулым годзе адведваў Радзюкі, маё радзіннае гняздо, я забраў з сабой на памяць выкапаны маленькі кусцік чаромхі і пасадзіў яе ў Гданьску ў маім гародчыку. І зараз па вясне мая радзюкоўская чаромха прыгожа зазелянела, гэта значыць, прыжылася. Цяпер заўсёды, гледзячы на яе, успамінаю родную старонку”.

*18 мая 2010, Гродна.*

# У Глыбокім адзначылі 600-ыя ўгодкі перамогі пад Грунвальдам



Фота Ул. Скрабатуна

Ю.Ф. Усціновіч, старэйшы выкладчык кафедры гісторыі Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэту.

**– Хутка ўсе забудуць, што святкавалі 65-ыя ўгодкі Перамогі, а яны тут хочуць адзначаць нейкія 600-ыя ўгодкі Грунвальдскай бітвы,– каментуе тэкст афішы свайму мужу адна спадарыня.**

**Натуральна, аўтар, які праходзіў міма, мог бы паспрачацца, што гэтая бітва – не "нейкая". Важкасць вынікаў гэтае бітвы ўражвае! Больш 500 гадоў нямецкі бот не ступаў на беларускую зямлю!!! Асмеліліся немцы ізноў гэта зрабіць толькі ў 1914 годзе.**

**Аднак, у гэтай сямейнай пары было свята. Яны, пасля першай Камуніі, ішлі з касцёла дадому з сынам. І мая рэпліка магла б быць не да месца…**

■ **Ул. Скрабатун**

У Глыбокім адбылося святкаванне 600-ых угодкаў Грунвальдскай бітвы. Не, гэта не было агульнагарадское мерапрыемства, якое арганізаванае ўладамі, а лакальнае, якое арганізавалі энтузіясты. Наведаць гэтае мерапрыемства заклікаў, нават, глыбоцкі пробашч кс. Мечыслаў. І тут, дарэчы, будзе сказаць, што ў нядзелю, у касцёле, адбывалася вялікая ўрачыстасць – першая Камунія, вернікаў быў повен касцёл.

Ахвотныя, асабліва людзі, якія цікавяцца гісторыяй, а 16-ай гадзіне прыйшлі на мерапрыемства ў Гарадскі цэнтр культуры. Уваход быў платным, коштам 1000 рублёў, але прысутных было шмат, хіба што дзесятак месцаў засталіся вольнымі.

Мерапрыемства распачалося лекцыяй "Войска Вялікага княства Літоўскага ў Грунвальдскай бітве". Лекцыю ў тэатралізаванай форме правёў Ю.Ф. Усціновіч, старэйшы выкладчык кафедры гісторыі Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэту. Сам лектар быў апрануты ў сярэднявечныя рыцарскія даспехі і трымаў у руцэ дзіду. На экране адначасна з аповядам лектара дэманстраваліся малюнкі рыцараў Вялікага княства Літоўскага часоў Грунвальдскай бітвы. Усё гэта – пад акампанімент дуды (валынкі) ансамбля сярэднявечнай музыкі.

Моладзь жыва адгукнулася на прапанову патанчыць на сцэне сярэднявечныя танцы. Атрымалася свайго роду сярэднявечная дыскатэка. Праўда, як заўсёды, самымі актыўнымі сталіся дзяўчаты, найперш глыбоцкія дзяўчаты-скаўты, якія сядзелі ва ўніформе ў першых шэрагах залы. А вось хлопцы сталіся сарамлівымі. Хіба што, выключэннем быў Віктар Дудкевіч, супрацоўнік Дома рамёстваў. Таго і запрашаць персанальна не спатрэбілася – самы першы выйшаў на сцэну.

Танцы заходнееўрапейскія: італьянскія, іспанскія, французскія, ды беларускія. Асабіва захапляльна глядзеўся танец "Ойра", які колісь ведалі на ўсёй сярэднявечнай Беларусі – ад поўначы да поўдня. І масоўка для гэтага танцу сабралася на сцэне найбольшая. Наогул жа, сярэднявечныя танцы былі двух відаў: карагодныя (замкнёнае кола танцораў) і ланцужковыя.

На заканчэнне – двубоі рыцараў Рыцарскага клуба "Гівойт" (г. Мінск). Сам выкладчык ПДУ Ю.Ф. Усціновіч, як сталася, не для бутафорыі апрануў рыцарскія даспехі – на сцэне ён вельмі выдатна фехтаваў мячом і абараняўся шчытом. Ён адзначыў, што ўсе мы чулі і ведаем пра баявыя мастацтвы Кітая ды Японіі (самураяў, напрыклад), аднак, амаль ніхто не чуў пра беларускія баявыя мастацтвы. Між тым літвіны (цяпер беларусы) былі выдатнымі ваярамі, і ў іх, з пакалення ў пакаленне, перадавалася баявое майстэрства, якое назапашвалася стагоддзямі.

Самыя цярплівыя засталіся да канца святочнага мерапрыемства, бо пасля рыцарскіх двубояў дэманстраваўся мастацкі фільм "Крыжакі", які быў зняты польскімі кінематаграфістамі паводле аднайменнага рамана Генрыка Сянкевіча.

**P.S.** Наколькі стала вядома аўтару, на святкаванне 600-ых угодкаў перамогі пад Грунвальдам адправіцца і прадстаўнічая дэлегацыя з Глыбокага, сярод якіх скаўцкая арганізацыя пры касцёле св. Тройцы. Нагадаем, урачыстасць на Грунвальдскім полі (цяпер тэрыторыя Польшчы) адбудзецца 15-18 ліпеня 2010 года.



Фота Ул. Скрабатуна

# Заданне было складаным

**Удзельнікамі 4 агульнапольскага арфаграфічнага конкурсу сталі і глыбачане. Заданне было складаным: дыктоўка – урывак з твору Адама Міцкевіча пра родны дом. Лепшыя вынікі ў Ніны Казлоўскай, Аляксандры Кордас, Дзмітрыя Лупача, Тарэсы Кісель, Данаты Алексінай, а сярод моладзі – у Мікалая Касінскага. Пераможцам уручаны Дыпломы ГА Польскай Мацежы Школьнай.**

2010 год у Польшчы – год Шапена

200–годдзю з дня нараджэння Фрыдарыка Шапена быў прысвечаны конкурс малюнкаў. Хлопец маляваў партрэт знакамітага польскага кампазітара. У намінацыі «графіка» пераможцам прызнаны Дзяніс Храпавіцкі. Яго праца адзначана Дыпломам 1 ступені ГА Польская Мацеж Школьная.

18 мая 100 гадоў таму адышла з гэтага свету Эліза Ажэшка. Але не толькі яе грамадская пазіцыя, яе літарацкія творы, але і яе любоў да бацькаўшчыны, зацікаўленасць легендамі, сталі асновай конкурсу "Жыццё і творчасць Элізы Ажэшка". Лепшыя вынікі ў Аляксея Юргеля, Алега Валковіча, Дзяніса Храпавіцкага, Дашы Сінкевіч, Тані Рысевай і Тані Вайцяховіч. Пераможцам уручаны Дыпломы ГА Польскай Мацежы Школьнай і сувеніры.

*Алена Пяткевіч, в. Карасіно, Браслаўскі раён*

# Начная беларускамоўная дыскатэка ў цэнтры Мінска

**Завітаць на канцэрт беларускіх гуртоў ды застацца на дыскатэку ў беларускамоўным фармаце запрашаюць у апошні дзень вясны арганізатары мерапрыемства "Цяжкі панядзелак".**

31 траўня ў клубе "Рэактар" адбудзецца ўнікальная музычная падзея "Цяжкі панядзелак" - вялікі канцэрт берасцейскага гурта SCIANA разам з не менш цікавымі калектывамі: PartyZone, Спрат, The FraiZ, EXIST-M. Цікавасць і ўнікальнасць мерапрыемства менавіта ў тым, што пасля выступу гуртоў усё не скончыцца, а распачнецца "Першая народная беларуская дыскатэка". Усе прыхільнікі добрай беларускай музыкі змогуць працягнуць адпачынак на дыскатэцы.

Упершыню ў адным з галоўных клубаў Беларусі не толькі цэлы вечар, але і цэлую ноч будзе гучаць музыка толькі беларускіх гуртоў, праектаў і выканаўцаў.

"Гэтым мерапрыемствам мы хочам паказаць разнастайнасць сучаснага музычнага жыцця Беларусі. Праводзяцца шматлікія беларускамоўныя рок-фестывалі, не так даўно адбыўся першы беларускамоўны рэп-фестываль, а чаму нельга паказаць моладзі, што і дыскатэкі можна рабіць цалкам з беларускіх песень і, тым больш, беларускамоўных выканаўцаў. Усё рэальна, бо кожны дзень з'яўляюцца новыя цікавыя і непаўторныя гурты і праекты, песні якіх добра пасуюць як для радыё эфіра, так і для дыскатэкі", - зазначыў аўтар ідэі і галоўны арганізатар Віталь Супрановіч.




Мне здаецца, што гэта добрая нагода проста паслухаць добрую музыку, папіць піва з сябрамі ды сустрэць музычнае лета. Тым больш, што зараз, нягледзячы на добрае надвор'е, на вуліцы так проста з півам і сябрамі ўжо не пасядзіш. Ды і кошты квіткоў для сталіцы проста смешныя", - зазначыў дырэктар гурта SCIANA ды адзін з арганізатараў мерапрыемства Зміцер Назараў.

Кошт агульнага квітка на канцэрт і дыскатэку ўсяго 10 тысяч перад і 15 тысяч у дзень мерапрыемства, такім чынам, наведвальнікі атрымаюць магчымасць таньчыць пад лепшую музыку Беларусі ўсю ноч.

Паколькі дыскатэка народная, то яе арганізатары прапануюць усім жадаючым дапамагчы сфармаваць трэкліст мерапрыемства з тых песень, якія яны хочуць пачуць на дыскатэцы. Для гэтага сваю прапанову трэба пакінуць у адмыслова створанай групе мерапрыемства ў сацыяльнай сетцы (спасылка: http://vkontakte.ru/club13978535).

31 траўня
18.00 - 05.00
Клуб "Рэактар"
Мінск, вул. В. Харужай, д. 29
"Цяжкі панядзелак" + "Першая народная беларуская дыскатэка"
Кошт: 10-15 тысяч.
Даведкі: 80297828881, 80296490888

*Павел Белавус*

# Ну, гэта ж Сібір!

## Размова з с. Інай Бальцэвіч ASC – місіянеркай з Сібіры.

■ кс. Віктар Місевіч

**Кс. Віктар Місевіч:** С. *Іна, вы нядаўна вярнуліся з Сібіры, дзе цяпер працуеце, скажыце, калі ласка, дзе знаходзіцца Вашая парафія?*

– Я працую цяпер у г. Ачынску, гэта прыкладна 170 км на захад ад Краснаярска. А наогул, сталіцай нашай дыяцэзіі ёсць горад Іркуцк, да якога нам з парафіі 1400 км.

**Кс. Віктар Місевіч:** *Ёсць звесткі, што Вашая дыяцэзія самая вялікая ў свеце. Ці так гэта?*

– Гэта сапраўды так. Наша дыяцэзія названая ў гонар св. Юзафа і прасціраецца ад Краснаярска да Камчаткі, ад Якуціі да Рэспублікі Хакасія на поўдні Расіі. Яна цалкам знаходзіцца ў Азіі.

**Кс. Віктар Місевіч:** *Ардынарыем Вашай дыяцэзіі з'яўляецца біскуп Кірыл Клімовіч, былы пробашч Глыбоцкай парафіі і пазнейшы дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай дыяцэзіі. А якія святары сёння дапамагаюць яму ў абвяшчэнні Евангелля ў Сібіры?*

– У дыяцэзіі працуе каля 60 святароў. Зразумела, што большасць з іх – не мясцовыя, не расіяне, таму што Касцёл у Расіі спазнаў на сабе знішчальны пераслед атэістычных уладаў. Ён усцяж яшчэ адраджаецца. У дыяцэзіі вельмі шмат святароў з Польшчы і Славакіі, ёсць таксама святары з ЗША і з Індыі. Менавіта яны нясуць на сабе ўвесь цяжар місійнай працы.



с. Іна Бальцэвіч ASC.

**Кс. Віктар Місевіч:** *Іх праца, пэўна, абцяжарваецца яшчэ і няпростымі кліматычнымі ўмовамі?*

– Ну, гэта ж Сібір. У Ачынску, дзе я працую, тэмпература зімой сягае да - 43˚С. Сам жа зімовы перыяд доўжыцца ад кастрычніка да мая.



Бывае і такая праца.

**Кс. Віктар Місевіч:** *Я мяркую, што вам не прыходзіцца ў працы сутыкацца з натоўпамі вернікаў, на чым палягае Вашая дзейнасць у парафіі?*

– Мы выконваем усю неабходную працу пры касцёле: рыхтуем усё для набажэнстваў, прыбіраем у касцёле. Вельмі шмат працуем харытатыўна з дзецьмі з бедных сем'яў. У нашым парафіяльным доме створаны ўсе ўмовы для таго, каб прыняць на нейкі час групу дзяцей. Ездзім па ваколічных вёсках, шукаем католікаў, дапамагаем бедным сем'ям па лініі Карытас.

**Кс. Віктар Місевіч:** *Скажыце, калі ласка, які нацыянальны склад католікаў у сібірскай дыяцэзіі? Ці ёсць сярод іх беларусы?*

– Гэта ў асноўным нашчадкі ссыльных палякаў, літоўцаў. Ёсць адносна вялікая група латгальцаў. Яны гэта выразна падкрэсліваюць і не пагаджаюцца, калі іх называеш латышамі. Іх продкі яшчэ за царскім часам самі пераехалі ў Сібір у пошуках зямлі і лепшай долі. Што адметна, многія з іх памятаюць сваю мову. Што тычыцца беларусаў-католікаў нашыя святары кажуць, што іх вельмі шмат на Камчатцы. Аднойчы я сустрэла беларуса і ў нашай парафіі. Ён сам родам з Задарожжа каля Глыбокага.

**Кс. Віктар Місевіч:** *Місійная праца нялёгкая. Асабліва пасля спустошальнай атэістычнай палітыкі савецкіх уладаў. Ці даводзіцца Вам бачыць плады сваёй працы? Ці вяртаюцца да Бога людзі?*

– Сапраўды, у Сібіры праца не з лёгкіх. Пра рэлігійнае спусташэнне там сведчыць ужо хоць бы тое, што на ўвесь стодваццацітысячны Ачынск прыходзіцца толькі адна царква. Пануе рэлігійная абыякавасць. Але сапраўды ёсць вяртанні. Некаторыя дзеткі, з якімі мы працуем, з дазволу бацькоў прымаюць Хрост, прыступаюць да І Споведзі і І Камуніі. Ёсць і дарослыя, якія пасля працяглых пошукаў знаходзяць Бога.



Для старэнькіх сёстры – ці не адзіная радасць.



Прытулак для хлопчыкаў.



Сібірская зіма.

**Кс. Віктар Місевіч:** *Пастаянна даводзіцца чуць абвінавачванні з боку Рускай Праваслаўнай Царквы да католікаў у Расіі, што яны займаюцца празелітызмам – пераманьваюць у Касцёл праваслаўных. Ці маюць такія абвінавачванні нейкую падставу?*

– Гэта няпраўда. З працы ў сваёй парафіі ведаю, што канвертыты ад пачатку рыхтуюцца да Хросту. Гэта значыць, першапачаткова яны не прыналежаць да ніякай канфесіі. У Сібіры хапае працы ўсім: і нам, і праваслаўным. Шмат дзе пануе паганства і вера ў забабоны.

**Кс. Віктар Місевіч:** *Ці ёсць у Вашай дыяцэзіі рэгіёны, дзе місійная праца спатыкаецца з адкрытай прыязнасцю з боку насельніцтва?*

– Святары-славакі, якія працуюць сярод паўночных народаў, распавядалі, што мясцовае насельніцтва прыхільна вельмі ставіцца да каталіцызму. Яны вельмі цэняць тое, што ў Касцёле, будучы католікам, лёгка захаваць сваю нацыянальную ідэнтычнасць і нават паглыбіць яе. Чаго нельга сказаць пра Рускае Праваслаўе.

**Кс. Віктар Місевіч:** *С. Іна, жадаю Вам моцы Духа Святога ў нялёгкай працы ў Сібіры, заўсёды прыязных людзей на Вашым місійным шляху і моцнага здароўя! Памятайце, што Вы заўсёды чаканы госць на Радзіме! Дзякуй за размову!*

– Дзякуй вялікі. Давяраюся Вашым малітвам.

**P.S.** С. Іна Бальцэвіч з'яўляецца сястрой манаскай супольнасці Адаратарак Крыві Хрыста. Працяглы час працавала ў Докшыцах на Беларусі. Ад паўгоду працуе ў г. Ачынску ў сібірскай дыяцэзіі Св. Юзафа Каталіцкага Касцёла.



Першая Камунія ў Ачынску.



Дзеці вельмі любяць сясцёр.

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ "Вольнага Глыбокага"

31 траўня – 6 чэрвеня 2010 г.



## ПАНЯДЗЕЛАК, 31 траўня



**06.00**, **07.00**, **08.00**, **09.00**, **12.00**, **13.00**, **14.00**, **15.00**, **16.00**, **17.00**, **18.00**, **19.00**, **23.55** Новости.
**06.05**, **07.10**, **08.15** «Доброе утро, Беларусь!».
**07.05**, **08.10** Зона Х.
**07.30**, **08.25**, **11.50** Деловая жизнь.
**08.30** В мире моторов.
**09.05** Nota Bene.
**09.35** Здоровье.
**10.05** Женское ток-шоу «Жизнь как жизнь». «Поздние роды».
**11.05 «Не родись красивой»**
**12.10 «Жребий»** (СССР).
**13.45** «OFF STAGE LIFE»
**14.05** «Моя правда» Фильм «Александр Абдулов».
**15.15**, **19.15** Новости региона.
**15.25** «Эпоха».
**15.55** Культурные люди.
**16.25 «Общая терапия»**
**17.25 «Не родись красивой»**
**18.20** «Прости меня».
**18.50**, **01.15** «Зона Х».
**19.25** «КЕНО».
**19.30** Арена.
**19.55** Ток-шоу «Ответный ход».
**21.00** Панорама.
**22.00 «Отчаянные домохозяйки-4»**
**23.05 «Знамение»**
**01.20** День спорта.



**06.00**, **09.00** Наши новости.
**06.05** «Наше утро».
**09.05** Контуры.
**10.10** «Дыхание планеты».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10** Теория невероятности. «Астральные путешествия».
**12.00** «Малахов+».
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** «Понять. Простить».
**13.45** «Модный приговор».
**14.45** «Контрольная закупка».
**15.15 «Иван Подушкин. Джентльмен сыска».**
**16.00** Наши новости.
**16.10** Новости спорта.
**16.15 «Обручальное кольцо».**
**18.00** Наши новости.
**18.15** Новости спорта.
**18.20** Анатолий Журавлев, Мария Шукшина в комедийном сериале **«Папа на все руки»**.
**19.00** Жди меня.
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** Ток-шоу «Выбор».
**22.00 «Остаться в живых»**.
**23.00** Наши новости.



**23.15** Новости спорта.
**23.20** «Преступления века».
**23.55 «Говорящая с призраками»**.
**00.45** Наши новости.
**01.00-01.10** Новости спорта.



**07.00** ЛАДное утро.
**08.00 «Универ»**
**08.30** Час суда. Дела семейные.
**09.25** В этот день.
**09.30 «Любовь как любовь»**
**10.35 «Наследники»**
**12.10** «Пра мастацтва».
**12.35** Школа ремонта.
**13.30 «Полюби меня снова»** 1-я серия.
**14.35** Бухта капитанов.
**15.10** Телебарометр.
**15.30 «Цепь»** (Россия). 1-я серия.
**16.20** Час суда.
**17.25** Простые упражнения
**18.00** Сериал **«Любовь как любовь»**
**19.05 «Украсть у...»**
**20.00** Белорусское времечко.
**21.10** Калыханка.
**21.30** Большое сердце.
**22.00 «Универ»** (Россия).
**22.35** Хоккей. Формула игры.
**23.00 «Цепь»** 1с.



**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро.Студия хорошего настроения».
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро.Студия хорошего настроения».
**08.30** «Неделя».
**09.35** «Большой завтрак».
**10.05** «Пять историй».
**10.30** «24 часа».
**10.40** «Ангел-хранитель».
**11.40** «Званый ужин».
**12.35 «Мачеха»**. Сериал.
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Я-путешественник».
**14.10 «Своя команда»**.
**15.00** «Большой город».
**15.40** «Горячий лед».



**16.05** «Культурная жизнь»
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Добро пожаловаться».
**17.10** «Наше дело».
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30 «Мачеха»**. Сериал.
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.20** «Добрый вечер, малыш».
**20.35 «ЖАРКИЙ НОЯБРЬ».**
**22.30** «24 часа».
**22.55** «Столичный футбол».
**23.25** «Кино»: **«ДЕТИ ШПИОНОВ».**

БЕЛСАТ tv BELSAT

**17:00** Аб'ектыў
**17:05 «Ранча Піковая Сямёрка»**
**17:30** Госьць «Белсату»
**17:50 «Арол: крымінальная сага»**, серыял: 20 серыя
**18:40** «Маці» дак. фільм,
**19:15** Прэс-экспрэс
**19:30 «Аблавушак»**, мультсерыял
**19:40** Еўропа сёньня
**20:05** ПраСвет
**20:25** «Гузік» дак. фільм,
**21:00** Аб'ектыў
**21:20** Рэмарка
**21:40** Моўнік
**21:45 «Панна Ніхто»** маст. фільм, рэж. Анджэй Вайда, 1996 г., Польшча
**23:25** Аб'ектыў

